№2(11)
2000г.
люты

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**Традыцыі і сучаснасць**

*Газета Гоман Барысаўшчыны - гэта адзіная бязмежная крыніца невядомай і малавядомай інфармацыі аб нашым краі. Чытайце і выпісвайце нашу газету!*

## Экалагічная катастрофа

Словаспалучэнні «экалагічныя праблемы» і «экалагічная катастрофа» большасць падсвядома звязвае з чымсьці далёкім. На самой справе шмат якія тутэйшыя экалагічныя праблемы з'яўляюцца вельмі сур'ёзнымі і патрабуюць умяшання. Адна з іх, якая ніколі не ўздымалася ў друку, - вынішчэнне глебы ў наваколлях Новабарысава.

Ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што наваколле новай часткі горада амаль цалкам заняты вайсковымі палігонамі. Дзеля іх утварэння ў свой час былі высечаны вялікія лясы, практычна знішчана ўсё жывое на вялізнай плошчы. Але гэта яшчэ не ўсё. Паверхня зямлі разбурана гусенічнай тэхнікай. У выніку гэтага і ўздзеяння дажджоў цалкам страчана прыдатная для раслін глеба. Зямля практычна стала мёртвай. Плошча вынішчаных земляў суразмерна з плошчай самога Новабарысава. На аднаўленне глебы, нават у самых спрыяльных умовах, спатрэбіцца дзесяткі ці, нават, сотні гадоў. А што казаць пра аднаўленне экасістэмы?

Нехта можа запярэчыць, што неабходна падтрымліваць баяздольнасць войска, што патрабуе пэўных ахвяр. Але ж такая тэхніка па свайму характару з'яўляецца наступальнай. Мы што, збіраемся заваёўваць навакольныя дзяржавы?

Неабходна ў шмат разоў паменшыць плошчу палігонаў ці наогул зліквідаваць іх (на Беларусі такіх аб'ектаў вялікая колькасць) і тэрмінова распрацаваць праграму па рэгенерацыі глебаў на іх тэрыторыі. Пэўна пагодзяцца ўсе, што зоны адпачынку ў прадмесці горада значна больш патрэбны, чым палігоны для наступальнай зброі з мёртвымі зонамі.

*В.Стэфановіч*

# ПАКАЛЕННІ ПРЫХОДЗЯЦЬ І АДЫХОДЗЯЦЬ,



# А ЁН ЗАСТАЕЦЦА...

*Матэрыял пра каменны крыж каля вёскі Пупелічы чытайце на стар.3*

*Будуецца храм* 3 стар.



*Экскурсія па Барысаву* 4 стар.

*Невядомы Старабарысаў* 5 стар.



*Мастак С.Лагачоў* 6 стар.



*Тутэйшыя спелеолагі* 7 стар.



*Яны іграюць РЭП* 8 стар.



## Фестываль пачаўся ў Барысаве

Усебеларускае культурна-асветніцкае таварыства «Дарога да жыцця», зарэгістраванае Міністэрствам юстыцыі РБ у жніўні мінулага года, асноўнай задачай сваёй дзейнасці ставіць задавальненне духоўных запатрабаванняў людзей у прыгажосці, гармоніі, чалавечнасці. У рамках гэтага таварыства і праводзіцца цяпер першы Усебеларускі фестываль самадзейнай творчасці «Светлая хваля».

У пачатку лютага першы адборачны этап фестывалю прайшоў у Барысаве на базе Дома культуры завода БАТЭ. Сцэна была прадастаўлена ў распараджэнне непрафесійных паэтаў, бардаў, музычных, харавых, танцавальных калектываў, мастацкіх студый і асобных мясцовых мастакоў.

Эстафету фестывалю Барысаў перадаў іншым гарадам рэспублікі, а заключны яго этап павінен адбыцца ў Мінску ў пачатку красавіка.

*А.Турко*

## Будзе новая школа

У шостым мікрараёне нашага горада пачалося будаўніцтва новай школы. Хутчэй за ўсё гэта будзе школа № 25.

Уражвае макет новай школы, якім можна палюбавацца ў кабінеце загадчыка аддзела адукацыі Бойкі А.А. І сапраўды гэта будзе ўстанова на 930 вучняў, на 33 класы, з чарапічным дахам. Блок для вучняў школы 1 ступені будзе ўключаць класы для 300 вучняў, спальні-гульнёвыя на 75 месцаў, майстэрню, рэкрэацыі з трэнажорамі. Будзе асобны блок для вучняў 2 і 3 ступеняў школы і агульнашкольны блок з кіназалай і інфармацыйна-тэхнічным цэнтрам.

Новая школа - гэта новыя магчымасці для нашых дзетак. Але прысутнасць у адным раёне пяці школ сведчыць хутчэй за ўсё пра перакосы ў горадабудаўніцтве.

*М.Пучыла*

## Паслядоўнікі капітана Сільвера

Ці ведаеце Вы, паважаныя барысаўцы, што звычайны асфальт мае цікавыя здольнасці расці ўверх?..

Я доўгі час назіраў за гэтай дзіўнай з'явай на вул.Дзяржынскага. І вось факт: дарога вырасла настолькі, што тратуары для пешаходаў ператварыліся ў сцёкавыя канавы, па якіх хлюпаюць людзі з асцярогай косячыся на аўтамабілі.

Справа ў тым, што нешта незвычайна важнае шукаюць на гэтай вуліцы камунальныя службы горада, з пачуццём блізкім да таго, што зведала кампанія капітана Сільвера, капаючца ў зямлі. Потым усё зарываюць і акуратна закатваюць тоўстым слоем асфальта, кожны раз падымаючы праезджую частку дарогі вышэй і вышэй. Праходзіць невялікі час, іх нешта непакоіць, і ўсё пачынаецца зноў.

А трэба б было ўспомніць, што некалі гэта вуліца была акуратна выкладзена каменнем, людзі хадзілі па сухіх высокіх тратуарах, а ўздоўж дарогі па спецыяльных канаўках сцякала вада.

Дык як? Пойдзем да новых вышынь, ці пачнем думаць і рабіць, як разумныя людзі?

*У.Гадун*

## Рэкет на Барысаўскім рынку

Калі хто з вас, паважаныя чытачы, будзе наведваць рынак у старой частцы нашага горада, то пры ўваходзе ў малочны павільён можна ўбачыць цікавую карціну. За гандлёвым сталом стаіць прывабная прадаўшчыца Ніна і са стараннасцю прапануе набыць свой тавар: курэй і яйкі. А побач, шырока расставіўшы лапы, сядзіць чорны, кудлаты, невядомай пароды сабака і пільна сочыць за ўсім, што адбываецца навокал. Вось што расказала пра яго сама Ніна.

Сабаку ведаюць мясцовыя гандляры, таму што ён «кантралюе» ўсю тэрыторыю рынка і асобна вырашае, каго з іншых сабак запусціць на сваю вотчыну падсілкавацца, а каго адразу ж прагнаць. За гэта ён і атрымаў экстравагантную клічку Рэкет. Зусім нядаўна адбыўся з ім цікавы выпадак. Нікім не заўважаны невядомы сабака прабраўся да скрыні з таварам і, ухапіўшы курыцу, пачаў уцякаць. Праз якую хвіліну Рэкет насціг злодзея, паваліў яго, добра прыціснуў зубамі за спіну і вярнуў курыцу гаспадыні. Сам жа пёс ніколі не возьме без дазволу нават кавалачак чыіх- небудзь прадуктаў, якім бы ён ні быў галодным. За гэтыя свае якасці Рэкет заслужыў павагу і добрыя да сябе адносіны.

Кажуць, што на рынках існуе яшчэ і іншы рэкет, але гісторыя пра нашага Рэкета здаецца нам намнога цікавейшай.

*Л.Гадун*

## Нярадасная інфармацыя

Аддзел унутраных спраў Барысаўскага гарвыканкама паведамляе, што ў 1999 годзе непаўналетнія грамадзяне горада здзейснілі 186 злачынстваў, удзел у якіх прынялі 175 падлеткаў. І хоць у горадзе ўжо тры год канстатуецца зніжэнне колькасці злачынстваў, але разам з тым адзначаны рост цяжкіх злачынстваў так, як было і ў 1998 годзе ў параўнанні з 1997 годам.

У 1999 годзе пастаўлены на ўлік 4 забойствы. Колькасць разбояў вырасла з 4-х у 1998 годзе да 6 - у 1999 годзе; грабяжоў - з 10-ці да 17-ці; гвалтаванняў - з 3-х да 4-х; злосных хуліганстваў - з 17-ці да 26-ці.

Як і раней, найбольш крымінагенай катэгорыяй з'яўляюцца вучні школ: 86 вучняў здзейснілі 100 злачынстваў, у 1998 годзе было 80/106.

Акрамя таго, за ўжыванне спіртных напояў затрымліваліся 445 непаўналетніх, з іх вучняў школ - 218, навучэнцаў ПТУ - 100. Да таго ж, асоб жаночага полу п'янымі затрымлівалася 50.

У якасці ўласнага каментару, галоўнай прычынай дзяцячай злачыннасці з'яўляюцца, на маю думку, разбурэнне сям'і і збядненне нашага грамадства.

*М.Пучыла*

## Аб'яўлены конкурс

У Беларусі аб'яўлены конкурс экалагічных праектаў «Горад, вёска трэцяга тысячагоддзя».

Загадам аддзела адукацыі г.Барысава даручана арганізаваць падрыхтоўку рэгіянальных праектаў у школах і пазашкольных установах. Форма выканання вольная. Праекты будзе прымаць спецыяльная камісія, створаная з гэтай нагоды гарадскім эколага- натуралістычным цэнтрам.

*М.Пучыла*

Нагадваем, што на газету **«Гоман Барысаўшчыны»** можна падпісацца ў любым аддзяленні сувязі. Падпісны індэкс выдання ***64184***. Кошт індывідуальнай падпіскі:

на **1** месяц - **90** руб.
на **3** месяцы - **270** руб.

Кошт ведамаснай падпіскі:

на **1** месяц - **135** руб.
на **3** месяцы - **405** руб.

# Цэтлік з падтэкстам?

Як вядома, 1792 годзе разам з наданнем Барысаву магдэбургскага права быў зацверджаны гарадскі герб. Праз тры з паловаю гады ў 1796 годзе, пасля анексіі тутэйшых земляў у склад Расійскай імперыі, быў зацверджаны новы герб. Ён адрозніваўся ад старога тым, што на ім у верхняй частцы прысутнічалі двухгаловы арол і невялікая выява герба губернскага горада.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў стаўленне да гарадской сімволікі было дастаткова свабодным. Хто як жадаў, так і маляваў.

Нядаўна Барысаўскі завод безалкагольных напояў выпусціў новую мінеральную ваду «Барысаўская - 3». На яе цэтліку маецца выява гарадскога герба часоў названых вышэй падзеяў з расійскім арлом. Гэта што, падтэкст на гістарычныя паралелі паміж лёсам нашага краю напрыканцы XVIII стагоддзя і сённяшнімі падзеямі?

*Ян Юроўскі*


Фота 1979г.

## Аркестр нашай маладосці

Пераглядаючы неяк сямейны архіў, натрапіў я на фотаздымак, які з мастацкага боку гледжання нічога і не варты, але з глыбіні душы ўзняў шмат пачуццяў, успамінаў і пакінуў мяне ў самотным роздуме.

Пачалося гэта ў верасні 1966 года. Мы ўсе былі піянерамі, актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці, нам было весела і шчасліва, а занадта многа ведаць не дазвалялася і дарослым, не кажучы ўжо пра дзяцей. І ў гэты час адкрылася ў гарадскім Доме піянераў школа гарманістаў і барабаншчыкаў. Трапіў у ліку двух ад нашай школы і я. Вось так адбылася першая сустрэча з кіраўніком аркестра Іванам Сцяпанавічам Вайналовічам.

А затым была, як кажуць, дарога. Цяжкая дарога да музыкі, да культуры, да самавыяўлення. Школа гарністаў хутка перарасла ў маладзёжны духавы аркестр, які праз невялікі час стаў вядомы на ўсю рэспубліку. Ніводнага конкурсу, ніводнага свята не абыходзілася без нашага ўдзелу. Аркестр з'яўляўся Лаўрэатам чатырох фестываляў духавой музыкі. Ганаровыя медалі і зараз захоўваюцца ў маёй скрыні, напамінаюць аб той маладой пары.

Але не былыя творчыя поспехі прымусілі задумацца. Справа ў тым, што ў аркестр прыходзілі ў асноўным «цяжкія дзеці». У кожнага было нешта не зусім добрае ў сям'і, і тыя часы занятак, рэпетыцый былі, мабыць, адтулінай для нашых маладых сэрцаў. Мы былі розныя па паходжанню, па матэрыяльнай забяспечанасці, па фактуры, па характарах. Былі і сваркі, і бойкі, і слёзы, і змыццё крыві з твару. Але не было варожасці. Быў аркестр, была музыка. Забывалася і даравалася ўсё. У аркестр хадзілі сем'ямі. Сем братоў і сясцёр Сцяпанавых, змяняючы адзін аднаго, прайшлі школу Івана Сцяпанавіча, чатыры браты Калечыцы, браты Велютькевічы, Горбачы. І шмат каго ўжо не ўспомніш. Шлях па-рознаму склаўся ў нас. Кагосьці ўжо няма на гэтым свеце, хтосьці знаходзіцца ўнізе нашага жыцця, хтосьці - уверсе. Пры сустрэчы вітаемся і шчыра пытаемся аб лёсе кожнага, каго памятаем. Пры развітанні заўсёды выказваем адну думку: «Вось бы сустрэцца і пайграць...» Але... разыходзімся кожны ў свой бок.

А потым яшчэ доўга гучыць у вушах музыка таго аркестра, аркестра нашай маладосці.

*У.Буйко*

# Хто запэцкаў вакзал?

Чыгуначны вакзал... Амаль кожнаму даводзіцца ад'язджаць, прыязджаць, сустракаць... Якім ён павінен быць? Першае ўражанне заўсёды застаецца ў памяці.

Апошнім часам нібыта вандалы прайшліся па вакзалах Беларусі. Не абмінула гэта навала і наш родны Барысаў. Асабліва жахлівае ўражанне пакідае памяшканне, дзе адбываецца продаж білетаў на пасажырскія цягнікі (першы паверх). Так выпацкаць сцены і шкляныя вокны не здолеў бы нават самы бяздарны мастак. Хто дазволіў так спаганіць «твар горада», хто зацвярджаў эскіз гэтага «пераўтварэння»? А калі ўявіць, што за гэта дзікунства заплочаны вялікія грошы...

Каб пабачыць падобныя «роспісы» на іншых вакзалах, трэба праехацца па Беларускай чыгунцы. Можна далёка не ехаць, дастаткова завітаць у Жодзіна. Нехта вельмі пастараўся, каб беларускія вакзалы, заўсёды ўтульныя і прыгожыя, ператварыліся ў бязлікія выпацканыя пачвары.

*І.Сямёнава*

# Ці збярэмся мы?

Падставай узяцца за пяро і напісаць аб гэтым паслужыла сустрэча ў электрычцы, што накіроўвалася ў Мінск, з адным з маіх вучняў. Ён заканчвае універсітэт культуры, рэжысёрскае аддзяленне, і перад ім устала пытанне аб далейшай працы. Я вельмі ўзрадаваўся і прапанаваў вярнуцца працаваць у Барысаў. Але пачуў у адказ: «Толькі не ў гэты мёртвы горад». І ўсплыло ў памяці, як тое ж самае казаў мне некалькі гадоў таму вядомы рэжысёр, наш зямляк, Валерый Мазынскі.

Мёртвы горад. Абразліва? Магчыма. Але ў нас сапраўды няма ніводнага прафесійнага мастацкага калектыва на такі вялікі, па мерках Беларусі, горад. Нашым вучням, што паступілі ў творчыя вузы, няма куды вяртацца. Можна сказаць, што ёсць школы, клубы, дзе патрэбна іх праца. Але, калі ты малады, энергія б'е цераз край, то хочацца дабіцца нечага большага. Хочацца паспрабаваць сябе менавіта ў прафесійным мастацтве, чаго не зробіш у Барысаве, бо такога ў нас няма. І едуць нашы таленавітыя маладыя людзі ў Пінск, Мінск, Брэст, Гродна, Маладзечна, Слонім, Мозыр, Оршу, нават Калінкавічы, бо там існуюць прафесійныя творчыя калектывы, а ў нас нічога. І нават захадаў да стварэння іх на бліжэйшы час не прадугледжваецца.

«Ведаеце, якая была б сіла, каб усе мы сабраліся - кажа Толік, так завуць таго хлопца - Мы, калі едзем на заняткі, адныя барысаўцамі займаем цэлы вагон у электрычцы.» Я прамаўчаў, бо калісьці ў гады свайго студэнцтва казаў тое ж самае. Але хто застаўся ў Барысаве з таго цэлага вагона? Адзінкі. Астатнія паехалі шукаць свайго творчага шчасця ў іншыя месцы. Далей ад мёртвага горада.

Ці збярэмся мы?

*У.Буйко, рэжысёр*



Фота В.Сіпранскага

# Кантрасты кнігагандлю

Час ад часу кожны мае патрэбу набыць новую кнігу. Прыемна мець дома добрую бібліятэку з разнастайнай літаратурай. А тое, што лепшы падарунак - кніга, ведаюць нават дзеці. На жаль, забыліся аб гэтым работнікі кнігарні спажыўсаюза, што на Стара-Барысаўскім рынку. Больш пяці гадоў таму гэту кнігарню можна было назваць «узорнай» у нашым Барысаве. Багаты выбар кніг і друкаванай прадукцыі разнастайнай тэматыкі, прафесійнае абслугоўванне, раней больш утульны інтэр'ер рабілі наведванні прыемнымі. Зараз кнігарня паменшылася ў памеры ўдвая. Набыць цікавую кнігу амаль немагчыма. Пераступіўшы парог, можна падумаць, ці то ў «сэкс-шоп» трапіў, ці то ў «пакой жахаў». Аб гэтым крычаць вокладкі кніг, якія наўрад ці падымуць інтэлект чытача. Паліцы амаль пустыя. Нават у прыватных распаўсюджвальнікаў цікавейшы і больш разнастайны асартымент друкаванай прадукцыі.

Што здарылася з кнігарняй? Не трэба вінаваціць эканамічнае становішча і наш «складаны» час. Амаль па-суседству на вул. Інтэрнацыянала,65 знаходзіцца іншая кнігарня, дзе заўсёды разнастайная тэматыка, новыя паступленні, свабодны падыход да кніг і друкаванай прадукцыі, увага да кожнага пакупніка з боку прафесійных работнікаў. Тут можна набыць цудоўныя і рэдкія кнігі на любы густ.

Вось такія кантрасты ў нашым кнігагандлі. «Творца кнігі - аўтар, творца яе лёсу - грамадства.» Гэтыя словы знакамітага французскага пісьменніка В.Гюго трэба зразумець тым, хто па свайму прафесійнаму абавязку павінен клапаціцца аб тым, каб добрая кніга знайшла свайго пакупніка.

*І.Сямёнава*

# Без гаспадара лес - сірата

Адно пакаленне лесаводаў, як гаворыцца, засявае ніву, а толькі наступныя - пажынаюць. Мы і не задумваемся над гэтым, гледзячы на крохкія парасткі кволых маладых дрэўцаў на засаджаных дзялянках. А сапраўды ж, толькі праз 80-100 гадоў тут вырасце сапраўдны лес - магутны і непаўторна прыгожы. І побач з ім, як і заўсёды, будуць людзі, якія за яго ў адказе.

Іван Людвігавіч Скібскі - патомны лесавод. Яго бацька яшчэ ў 1930 годзе закончыў Барысаўскую лесатэхнічную школу. Цяпер гэта ПТВ-202 лесаводаў, дзе з 1983 года працуе выкладчыкам Іван Людвігавіч. А да таго часу, пасля заканчэння Мінскага лесатэхнічнага інстытута ён працаваў лясічым у Лепельскім лягасе, галоўным інжынерам Барысаўскай зялёна-паркавай гаспадаркі.

Рыхтуючы для жыцця і працы тое пакаленне лесаводаў, якому наканавана пажынаць ніву, засеяную яго рукамі, Іван Людвігавіч перш за ўсё імкнецца выхаваць у іх пачуццё адказнасці. Ён прапануе ім сур'ёзна асэнсоўваць лічбы статыстыкі, якія сведчаць аб тым, што ў рэспубліцы пасадкай і пасевам створана лясоў на плошчы прыкладна 2,3 млн.га, а штогод усімі відамі высечак высякаецца 46% гадавога прыросту драўніны.

Лесу патрэбен гаспадар - зацікаўлены, беражлівы. І далёка не ўсё тое, што адбываецца зараз у лясной гаспадарцы нашай краіны, задавальняе чалавека, які аддаў лесу ўсё сваё жыццё і душу. Вось чаму Іван Людвігавіч Скібскі, спасылаючыся на меркаванні аўтарытэтнага вучонага - віцэ-прэзідэнта Беларускага таварыства лесаводаў, прафесара А.І.Янушку, - выказвае сваю шчырую заклапочанасць будучыняй галіны.

Перш за ўсё выклікае яго трывогу новы праект Ляснога кодэкса РБ, які знаходзіцца на разглядзе Нацыянальнага сходу. У ім утрымліваюцца нормы, якія, на думку прафесіянальнага лесавода, супярэчаць прынцыпам устойлівага развіцця і арыентуюць лесагаспадарчыя прадпрыемствы на згортванне вытворчай дзейнасці, пераўтварэнне з галіны матэрыяльнай вытворчасці ў службу дзяржаўнага кіравання лясамі і кантролю. Напрыклад, у праекце кодэкса ігнаруецца прынцып дзяржразліку ў развіцці лясной гаспадаркі, прадугледжана перадача лясоў у арэнду фізічным і юрыдычным асобам на тэрмін да 15 гадоў, абмежаванне правоў лягасаў на вядзенне высечак галоўнага карыстання, г.зн. на ажыццяўленне канчатковага этапу лясной гаспадаркі і г.д. Усё гэта ў сукупнасці не ўнушае аптымізму, бо яшчэ больш пагоршыць і без таго нялёгкі стан лягасаў.

А лясная гаспадарка Беларусі ўключна да 1992 года была дастаткова рэнтабельнай галіной. Сукупны прыбытак ад продажу лесу на карні і ў нарыхтаваным выглядзе заўсёды пакрываў расходы на вядзенне лясной гаспадаркі. І цяперашняя незбалансаванасць прыбытку і расходаў з'яўляецца паказчыкам не дрэннай работы лягасаў, а вынікам далёка не лепшага дзяржаўнага рэгулявання цэнаў на драўніну. Аўкцыённы продаж лесу пераканаўча паказаў, што спажывец гатовы плаціць цану ў 3-3,5 разы вышэй афіцыйна ўстаноўленай. Але справа не толькі ў гэтым. Сама сістэма гаспадарання не арыентуе лягасы на расшырэнне і ўмацаванне ўласнай прыбытковай базы. Менавіта гэтая неэфектыўная сістэма закладзена ў праекце новага Лясного кодэкса ў якасці асновы дзейнасці галіны. Затраты на лясную гаспадарку па-ранейшаму павінны фінансавацца ў асноўным з бюджэту. Як вядома, па астатковым прынцыпе.

А каб іх скараціць, лясы рэкамендуецца перадаць у арэнду юрыдычным і фізічным асобам. Маўляў, няхай арандатары самі клапоцяцца аб лясах...Немалы ўрон лясной гаспадарцы наносіць адцягненне валютных сродкаў, зароблены лягасамі, на рашэнне патрэб галіны. Гэты дадатковы падатак абарачваецца для лягасаў двайнымі стратамі. Да таго ж катастрафічнае становішча з зімоўкай жывёлы ў калгасах і поўны развал некаторых з іх. «Крайнімі» зноў з'яўляюцца лягасы, якія павінны не толькі ратаваць жывёлу на фермах, але і калгасы. Вось і падрываюцца асновы развіцця гаспадаркі, якая з'яўляецца базавай галіной ляснога комплексу, асновай экалагічнай бяспекі краіны.«Каб разумна і беражліва гаспадарыць у лесе, трэба любіць яго», - лічыць Іван Людвігавіч. Любіць у роўнай меры як радавому лесніку, так і кіраўніку, які распрацоўвае стратэгію галіны. Таму, вызначаючы мэты кожнага ўрока, настаўнік заўсёды выдзяляе сярод іх выхаваўчую - развіццё пачуцця прыязнасці і любові да абранай прафесіі, лесу, прыроды ў цэлым.

*А.Турко*



Архітэктар У.Данец

◄ Макет царквы

Эскіз царквы ►



# Будуецца храм

Беларусь. Родная наша зямля. Добрыя людзі жывуць на ёй і ўсіх, хто з дабром прыходзіць да нас, хлебам - соллю сустракаюць. На жаль, не толькі з дабром ішлі да нас. І тады станавіліся на іх шляху абаронцы роднай зямлі. Таму добра было б, каб у гонар іх было месца, дзе можна ўшанаваць іх памяць і заслугі перад Бацькаўшчынай.

Такім месцам у Барысаве мае стаць парк каля краязнаўчага музея. Тут пачаліся работы па пабудове храма абаронцам Айчыны.

Сёння мы знаёмім вас з архітэктарам, аўтарам праекта Данцом Уладзімірам Пятровічам.

- З чаго ўсё пачыналася?

- Гэтая ідэя ў Барысаве ўзнікла даўно. Нават быў распрацаваны праект пабудовы ля «батарэй» храма ў гонар загінуўшых у вайне 1812 года. На сённяшні дзень гэтая ідэя бачыцца больш шырока. Храм будзе прысвечаны абаронцам Бацькаўшчыны ва ўсіх войнах, якія прайшлі на нашай зямлі. Тое, што ўжо зроблена - перш за ўсё заслуга айца Міхаіла.

- А які ваш уклад у гэтую святую справу?

- Здаўна храмы будавалі «ўсім мірам» за кошт дабрачынных ахвяраванняў. Праект - гэта наш уклад.

- Што менавіта для вас значыла праца над праектам?

- Мне пашанцавала, што мой праект прынялі. У яго распрацоўку я ўклаў усё лепшае за свой творчы шлях, вопыт і веды. Аддаваў гэтай справе кожную вольную хвіліну. Для мяне гэта праца з'яўляецца вянцом маёй творчасці.

- Уладзімір Пятровіч, ці можна сёння сказаць, калі барысаўцы ўбачаць тое, што пакуль толькі на паперы, у чарцяжах.

- Маё вялікае жаданне, каб будоўля была закончана да 900 годдзя Барысава, у 2002 годзе. Але ўсё залежыць ад сродкаў.

*В.Пчолка*

# Набажэнствы па-беларуску

На Барысаўшчыне існуе больш за дзесятак розных канфесій. Але ніхто не стане спрачацца, што асноўнымі для нашых мясцін з'яўляюцца праваслаўная і каталіцкая канфесіі. Так гістарычна склалася, што праваслаўную веру на тэрыторыі сучаснай Беларусі «лабіравала» Расія, каталіцкую - Польшча. Адпаведна асноўнымі мовамі набажэнстваў былі руская і польская.

Як справа ідзе зараз? На якой мове праводзяцца набажэнствы?

У барысаўскім касцёле сёння можна пачуць тры мовы - польскую, беларускую і рускую. На беларускай мове штодзённа вядзе прапаведзі ксендз Марэк Жук. Па паходжанню ксёндз - беларус.

З пачатку дзевяностых на беларускай мове адбываецца і літургія. Яшчэ тады ксяндзу Юзафу давodзілася сутыкацца з незадаволенасцю артадаксальных каталікоў - яны жадалі чуць у сценах храма толькі польскую мову. На пытанне, як ставіцца большасць вернікаў да беларускай мовы зараз, ксендз Юзаф адказвае:

- Слухаюць і разумеюць.

У прыходах Барысаўскага раёна на беларускай мове прапаведуюць у асноўным маладыя ксяндзы, выхадцы з наваколля.

Праваслаўныя, як гэта ні дзіўна, таксама выкарыстоўваюць для зносін з вернікамі тры мовы - рускую, беларускую і польскую. Праўда, на польскай мове вернікаў віншуюць раз у год - на Пасху.

- Мы можам прапаведаваць на любой з гэтых моў, абы толькі вернікі разумелі,- кажа бацюшка Іаан.

На беларускай мове ў Свята-Васкрасенскім саборы пропаведзі праводзяцца, як паведаміў бацюшка Іаан, «праз дзень ці нават часцей». Беларускай мовай на такім узроўні, каб данесці слова божае да вернікаў, валодае толькі бацюшка Аляксандр. У міру бацюшка Аляксандр носіць прозвішча Пачэпка. Па адукацыі - філолаг. Перад тым, як стаць святаром, працаваў настаўнікам.

У старыя часы (да пачатку XIX стагоддзя) на Барысаўшчыне самай уплывовай хрысціянскай плынню, якая, дарэчы, шырока выкарыстоўвала ў службах беларускую мову, было уніяцтва. На сённяшні час яно не мае шырокага распаўсюджання.

*С.Нялюбін*

# Ізноў перамаглі барысаўскія алімпійцы

Чацвёрты раз запар каманда школ г. Барысава перамагла па прадметных алімпіядах вобласці. Як і раней, найбольшую канкурэнцыю нашай камандзе аказалі маладзечанцы і жодзінцы. Барысаўскія вучні атрымалі першыя месцы па геаграфіі, хіміі, рускай мове, іспанскай мове і фізіцы. Найбольшы ўклад у перамогу ўнеслі вучні гімназіі №1.

Трэба сказаць, што ў Барысаве існуе і дзейнічае ўдала распрацаваная праграма працы са здольнымі вучнямі.

*М.Пучыла*

# Гульні з беларускай мовай

Парадокс! 82 працэнты нашага насельніцтва, адказваючы на пытанне дзяржавы аб сваёй нацыянальнай прыналежнасці, прызналі сябе беларусамі ды яшчэ назвалі роднай мовай «матчыну мову». Акрамя таго, беларусаў стала больш не толькі колькасна, але і якасна: 37% людзей краіны сцвярджаюць, што дома яны размаўляюць па-беларуску. Упершыню за 10 год колькасць беларусаў - прычым зусім свядомых - вырасла на чвэрць мільёна. Вось такія вынікі апошняга перапісу. Дык у чым жа парадокс? А ў тым, што па-ранейшаму родная мова ў роднай дзяржаве не кацiруецца. На маю думку, народ актыўна загаварыў бы па-беларуску, калі б намер звярнуцца да нацыянальных вытокаў на пачатку 90-х падтрымала дзяржава. Але менавіта ёю паспяхова было загублена тое, што рабілі патрыёты ў гарадах і вёсках.

Пачынаючы з 1990 года ў г.Барысаве пачалося стварэнне «беларускіх класаў». Была нават створана беларуская гімназія. Такія класы і сёння ёсць у школах горада, але стала іх зусім мала. Новых іх не ствараецца, і становіцца сумна, бо праца настаўніцкіх калектываў па стварэнню беларускай школы марна згінула. Ужо новым пакаленням беларусаў прыдзецца вырашаць гэтую праблему.

Прасачыць працэс развіцця «беларускіх класаў», рост-падзенне колькасці вучняў такіх класаў у горадзе можна па табліцы, пачынаючы з 1995-1996 навучальнага года, дзе дадзеныя па гімназіі №2 не ўлічаны.

*М.Пучыла*




| | Падрыхтоўчых класаў | Першых класаў | Другіх класаў | Трэціх класаў | Чацвёртых класаў | Пятых класаў | Шостых класаў | Сёмых класаў | Восьмых класаў | Дзевятых класаў | Дзесятых класаў | Адзінаццатых класаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1995/1996** | 0 | 330 | 504 | 1184 | 970 | 57 | 24 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **1996/1997** | 0 | 165 | 272 | 468 | 707 | 501 | 53 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **1997/1998** | 0 | 0 | 57 | 191 | 373 | 398 | 328 | 56 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| **1998/1999** | 0 | 0 | 24 | 75 | 223 | 303 | 411 | 334 | 59 | 0 | 0 | 0 |
| **1999/2000** | 0 | 0 | 0 | 0 | 33 | 136 | 298 | 401 | 300 | 50 | 0 | 0 |

# *Разбурацъ, або сам развaліцца?*





На вялікі жаль, нам увесь час даводзіцца сутыкацца з новымі фактамі знішчэння гістарычных будынкаў на Барысаўшчыне. Вось і зараз яшчэ адзін будынак канца XIX - пачатку XX ст. у Барысаве на вул. Камсамольскай знаходзіцца на мяжы знішчэння.



Фота 1990 г.

# Экскурсія па Барысаву

На вялікі жаль, шмат хто з жыхароў Барысава вельмі дрэнна ведае гістарычную спадчыну, якая захавалася да нашых дзён у горадзе. Прычынай гэтага часта бывае не адсутнасць цікавасці да такой інфармацыі, а яе недахоп ці амаль поўная адсутнасць. Каб нейкім чынам зліквідаваць гэты прабел, вам самім прапануецца зрабіць пешую экскурсію па Барысаву і на месцы азнаёміцца з асноўнымі архітэктурнымі помнікамі і гістарычнымі мясцінамі горада.

Пачаць экскурсію мэтазгодна ад помніка экіпажу Паўла Рака. Сюды вельмі проста дабрацца з любой часткі горада аўтобусамі 1,4,6,8,9,11,12,14 ці 16. Насупраць помніка пачынаецца маленькі завулак. Прайдзіце па ім праз сквер міма царквы, якая будуецца і выйдзеце на праспект Рэвалюцыі каля краязнаўчага музея. Калі маецца дастатак часу, наведайце яго.

За аўтобусным прыпынкам пачынаецца сцежка на так званыя «Батарэі». Яны ўяўляюць сабою прадмостныя ўмацаванні - тэтдэ-пон і былі пабудаваны ў 1812 годзе, часткова разбураны падчас той вайны і аднаўлены пасля яе. Адразу злева знаходзіцца адзін з двух рэдутаў, што захаваліся да нашага часу. Ён мае квадратную форму. Вельмі добра захаваліся пляцоўкі на яго кутах для гармат і дарожкі, па якіх яны закатваліся.

Далей сцежка ідзе па насыпе паралельна праспекту ўздоўж другасных абаронных рова і валу да помніка тутэйшым падзеям 1812 года. З праглядавай пляцоўкі каля помніка вельмі маляўнічы краявід на старую частку Барысава.

Калі спусціцца ўніз па лесвіцы і пайсці налева, вельмі хутка можна апынуцца на пешаходным мосце праз Бярэзіну і за ясе паймай трапіць на вуліцу Гогаля. Прыблізна на пачатку вуліцы ў XVII стагоддзі існаваў трэці барысаўскі замак. Яго земляныя ўмацаванні захоўваліся да пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя.

Напрыканцы вуліцы Гогаля знаходзіцца замчышча другога барысаўскага замка. Ён утвораны не пазней другой паловы XIV - пачатку XV стагоддзя. Апошняя яго рэканструкцыя адбылася на пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя. Тады былі знішчаны земляныя ўмацаванні, а замест драўляных замкавых будынкаў былі пабудаваны два двухпавярховыя мураваныя. Яны захаваліся да нашага часу. Адзін з іх знаходзіцца ў аварыйным стане і вельмі хутка разбурацца. Калі будзе магчыма, звярніце ўвагу на падмурак гэтага будынка. У ім выкарыстаны вялізныя камяні. Ён быў узведзены яшчэ для старых драўляных будынкаў на пачатку XVIII стагоддзя.

Раней замак знаходзіўся на востраве. Ад часткі рова справа ад вуліцы Гогаля амаль нічога не засталося, яна інтэнсіўна знішчаецца апошнія гады. Злева па шляху ад замчышча па вуліцы Лапаціна на месцы рова засталося балотца, у якім значную частку года стаіць вада.

Праз вуліцы Лапаціна, Камінскага і III Інтэрнацыянала можна трапіць да касцёла. Касцёл пачалі ўзводзіць у 1806 годзе. Будаўніцтва было завершана толькі ў 1823 годзе. Аднак тагачасны яго выгляд адрозніваўся ад сучаснага. Замест вежы на пярэднім партале быў порцік з калонамі. Вежа была дабудавана ў 1836 - 1839 гадах. Унутры касцёл уяўляе трохнефавую базіліку.

Аднапавярховы стары мураваны будынак насупраць касцёла - былы дом пракурора. Зараз гэта адзін з карпусоў I паліклінікі.

Далей па вуліцы III Інтэрнацыянала знаходзіцца двухпавярховы будынак былой галоўнай сінагогі. Яна была ўзведзена ў 1913 годзе і з'яўлялася адной з лепшых і буйнейшых сінагог у Менскай губерні за межамі губернскага цэнтра. Фасад сінагогі зменены ў 1962 годзе.

Далей па вуліцы III Інтэрнацыянала варта звярнуць увагу на стары будынак аптэкі. Менавіта для гэтых мэтаў ён быў узведзены і выкарыстоўваўся як аптэка ўвесь час. Амаль насупраць яго на невялікім пустыры бачны падмурак. Яшчэ некалькі год таму тут знаходзіўся будынак буйнейшага кінатэатра «Гігант».

Пасля павароту на вуліцу Камсамольская у двары ЦАРМ можна ўбачыць стары двухпавярховы мураваны будынак былой сінагогі. Першапачатковы фасад будынка да нашага часу не захаваўся.

Пасля перасячэння вуліцы імя палка Нармандыя - Нёман на Камсамольскай вуліцы захаваўся стары брук. Па сваёй шырыні і драўлянай забудове яна падобна на тыповую вуліцу Барысава канца XIX - пачатку XX стагоддзя. Недалёка ад старога парка (заснаваны ў 1910 годзе), які зараз уяўляе сабою кінуты сквер, знаходзіцца драўляная царква былога Васкрасенскага манастыра (пра гісторыю манастыра чытайце ў наступным нумары). Узведзена яна хутчэй за ўсё паміж 1620 і 1648 гадамі і з'яўляецца старэйшым будынкам у горадзе. Сам манастыр з'яўляўся адным са старэйшых праваслаўных манастыроў на Беларусі і існаваў да сярэдзіны XVIII стагоддзя. Зараз тут царква стараабрадскай абшчыны. Шмат старых будынкаў захавалася па вуліцы Дзяржынскага. Сярод іх варта звярнуць увагу на дом нумар 63, дзе ў 1910 годзе быў размешчаны першы кінатэатр у Барысаве - «Ліра». Паміж вуліцамі III Інтэрнацыянала і Лапаціна захаваліся гандлёвыя рады, якія былі ўзведзены ў 1908 годзе. Калісьці яны складаліся з чатырох карпусоў, што мелі 112 крамаў.

Па вуліцы Лапаціна злева ад званіцы знаходзіцца дом казначэйства - будынак, які прынята лічыць старэйшым мураваным збудаваннем у Барысаве. Узведзены ён у 1807 годзе, разбураны падчас вайны 1812 года і аднаўлены ў значна меншых памерах пасля яе.

Званіца Васкрасенскага сабора ўзведзена ў 1907 годзе. Яе першы паверх уяўляе сабой уваходную браму да сабора. Сабор быў узведзены ў выглядзе крыжа ў 1874 годзе. Мае дзевяць купалоў і тры апсіды. Даўжыня сабора 27 метраў, шырыня 23 метры. Недалёка ад былой саборнай плошчы варта звярнуць увагу на будынак, які размешчаны па вуліцы Лапаціна, 41. Гэта будынак былой сінагогі «Хеўрэ тылім». Ён захаваўся да нашага часу ў першапачатковым выглядзе.

У цэнтры старога горада экскурсія можа быць скончана. Абмежаваная плошча газеты, на жаль, не дазваляе падрабязна пазнаёміць чытачоў з многімі цікавымі будынкамі, іх гісторыяй. Аднак спадзяемся, што прапанаваная экскурсія дазволіць шмат каму па-іншаму паглядзець на тутэйшую гістарычную спадчыну.

*М.Мацельскі*




- Гістарычныя мураваныя будынкі XIX - пачатку XX стагоддзя — Экскурсійны маршрут



# Нявыдуманая гісторыя

Ёсць каля вёскі Пупелічы (Крынічкі) каменны крыж. Калісьці, у сярэднявеччы, такіх крыжоў шмат ставілі па ўсёй Беларусі. Гадоў 10 - 15 таму вакол яго адбылася адна гісторыя, якую вам можа распавесці любы жыхар Пупеліч і навакольных вёсак.



Крыж стаіць пасярод воранага поля і мяшае яго апрацоўваць. Таму вырашана было прыняць гэты своеасаблівы камень. Крыж падчапілі тросам, трактарам выцягнулі з зямлі і адвезлі на ўскраек поля. Аднак потым, па начах, крыж з'яўляўся ў снах трактарысту і дакараў яго: «Чаму ты мяне выцягнуў? Пастаў мяне на месца!». У рэшце рэшт трактарыст не вытрымаў, адвёз крыж на месца і паставіў яго так, як ён і стаяў. Пасля таго крыж болей яму ў снах не з'яўляўся.

*А.Барэвіч*





*Галоўнае кіраўніцтва маёнтка вялікіх князёў Раманавых (былы палац Радзівілаў канца XVIII ст.) Выгляд на паштоўцы пачатку XX ст. (з архіва Барысаўскага краязнаўчага музея) і сучасны стан. Будынак моцна пацярпеў падчас другой сусветнай вайны. Адноўлены пасля яе ў меншым памеры як аднапавярховы.*

# Старабарысаў

Нямала слоў на старонках розных выданняў сказана пра Старабарысаў. Аднак шмат якія факты з яго гісторыі для многіх жыхароў так і застаюцца таямніцай.

Першы росквіт старажытнага Барысава - Старабарысава адносіцца да XII стагоддзя, калі ён быў заснаваны полацкім князем Барысам. У той час быў пабудаваны першы ў горадзе замак, замчышча якога і зараз амаль праз 900 год кідаецца ў вочы ўсім, хто трапляе ў гэтае гістарычнае месца. 4 жніўня 1127 года тут адбылася вялікая бітва, якая ўзгадваецца ў летапісах. Пасля пабудовы не пазней чым у другой палове XIV - першай палове XV стагоддзя ў некалькіх кіламетрах ніжэй ад старажытнага Барысава недалёка ад вусця Схі пераправы і новага другога замка, горад апынуўся ў баку ад асноўных шляхоў зносінаў і хутка прыйшоў у заняпад. Населены пункт на старым месцы практычна перастаў існаваць, а назва «Барысаў» перайшла да новага горада. На месцы старога горада ў другой палове XVIII стагоддзя заставаліся толькі два фальваркі шляхціцаў, невялікі драўляны касцёл і могілкі.

Другі росквіт Старабарысава пачаўся напрыканцы XVIII стагоддзя. У сувязі з ліквідацыяй Барысаўскага староства пасля анексіі тутэйшых земляў у склад Расійскай імперыі Барысаў быў адабраны ў апошняга старосты Радзівіла. Апошні раней меў сваю рэзідэнцыю ў барысаўскім замку. Зараз жа ён быў вымушаны тэрмінова шукаць для свайго маёнтка новае месца. Выбар паў на Старабарысаў. Менавіта тут быў узведзены самы пышны і багаты па свайму ўнутранаму афармленню палац за ўсю гісторыю нашага краю. Не шмат замкаў і палацаў на Беларусі маглі б супернічаць з ім у гэтым. У палацы меліся багатыя зборы ўсходняй зброі, манет ды шмат што яшчэ.

Чарговым паваротам у гісторыі Старабарысава стала вайна 1812 года. Радзівілы, як і значная частка тутэйшага насельніцтва, бачылі ў французах саюзнікаў і выступалі на іх баку. Відаць, было не выпадковым і тое, што Напалеон спыняўся менавіта ў Старабарысаве. Падчас вайны маёнтак быў часткова разрабаваны, а пасля яе быў канфіскаваны ў Радзівілаў на карысць дзяржаўнай казны Расійскай імперыі. Аднак неардынарнасць маёнтка вабіла да яго царскую сям'ю. Таму ў далейшым ён перайшоў да вялікіх расійскіх князёў.

Заняпад маёнтка пачаўся пасля 1917 года, калі спачатку тут была размешчана жаночая семінарыя, потым некалькі разоў яго перасякала лінія фронту, а затым быў размешчаны сельскагаспадарчы тэхнікум. Канчаткова маёнтак быў знішчаны падчас другой сусветнай вайны. Дарэчы, ёсць меркаванне, што немцы яго знішчылі пры адступленні менавіта таму, што тут спыняўся Гітлер.

Зараз на месцы маёнтка можна назіраць толькі стары будынак кіроўцы, склеп напалеонаўскага доміка і даўно зарослы парк. Ці адбудзецца трэцяе адраджэнне Старабарысава? Рэгенерацыя маёнтка дазволіла б зрабіць крок наперад па адраджэнню нашай гістарычнай свядомасці і пераўтварэнню Барысава і яго наваколляў у адзін з цэнтраў турызму на Беларусі.

**М.Мацельскі**



*Так званы «Напалеонаўскі» домік на пачатку XX ст. і яго склеп (сучасны стан). Зараз склеп практычна пераўтвораны ў сметнік (!) і інтэнсіўна засыпаецца.*



**Комплекс гістарычных помнікаў Старабарысава ўнікальны не толькі для Барысава, але і для Беларусі наогул. Ці зразумеем мы гэта і ці зможам іх захаваць і адрадзіць?**

*Гарадзішча Барысава XII-XIII ст.ст. і сядзібны дом на ім канца XIX- пачатку XX ст. На гарадзішчы і селішчы, што прылягае да яго, у 1968-1971 гадах праводзіліся раскопкі. Выяўлены рэшткі жытлаў XII-XIII ст. і шматлікія рэчы, якія характэрны для тагачасных беларускіх гарадоў.*









*Від на возера на пачатку XX ст. і сучасны стан аднаго з будынкаў*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-10 за 1996 - 2000 гг.)*

У Барысаве на пачатку XVI стагоддзя, у прыватнасці ў 1510 годзе, маста цераз Бярэзіну яшчэ не было. У 1593 годзе быў драўляны мост, які меў працягласць каля 450 метраў. Збудаваны ён быў раней. У Барысаве ў XVI стагоддзі была мытня, якой у 1582 годзе кіраваў пан Хамец. Мытня, згодна старадаўняга звычаю, збірала па грашу з кожнага воза, які праязджаў праз Барысаў (перапраўляўся цераз Бярэзіну).




*Барысаў і яго наваколле на карце 1600 года*

*Барысаўшчына на карце 1613 года*




На працягу XVI - першай паловы XVII стагоддзя Барысаў хутка расце. Гэтак С.Герберштэйн у 1516 годзе не звярнуў увагі на наш горад. Але ўжо ў 1593 годзе С.Хейсу здалося, што ён дастаткова вялікі. Насельніцтва Барысава к канцу XVI стагоддзя складала каля двух - трох тысяч чалавек. Гэта быў тыповы горад Вялікага княства Літоўскага. Забудаваны ён быў невялікімі драўлянымі будынкамі. На ўскраіне горада, на востраве, ля Бярэзіны, мясціўся дастаткова вялікі замак, які быў зроблены з дубовых дрэў. Ён меў некалькі вежаў і чатырохрадавая сцены, якія ўнутры былі запоўнены зямлёй і каменнямі. У замку на выпадак нападу маскоўцаў пастаянна ўтрымліваўся невялікі гарнізон жаўнераў. Так, у 1578 годзе ў замку была залога з пяцідзесяці ратнікаў. Усе, хто праязджаў Барысаў у другой палове XVI стагоддзя (А.Гаваньіні, С.Хейс) адзначалі, што яго замак быў вялікім і моцным. Відавочна, што ён быў цалкам абноўлены і найлепшым чынам умацаваны ў сярэдзіне XVI стагоддзя, не пазней за 1574 год.

У першай палове XVIIстагоддзя ў Барысаве недалёка ад старога замка быў пабудаваны новы. Ён таксама быў драўляны, меў глыбокі роў і вал. Два замкі былі злучаны паміж сабою падземным ходам. На адным з іх была ўзведзена царква абарончага тыпу.

У XV і больш ранніх стагоддзях практычна не сустракаюцца звесткі аб населеных пунктах у нашым краі. З XVI стагоддзя да нас іх дайшло досыць шмат. У прыватнасці на той час акрамя Барысава ўжо існавалі Аздзяцічы, Бараць, Бродня (існавала да сярэдзіны XX стагоддзя і знаходзілася на захад ад горада), Броды (Брод), Брылі (Брылёва), Будзенічы (Будзінічы), Бытча, Вяляцічы, Гліві́на, Дзядзілавічы, Забашавічы, Замошша, Зембін (Зебін), Карсакавічы (Каршакавічы), Касцюкі, Кімія (Кімея, Кемея), Крычына, Лошніца, Любча, Майсееўшчына, Мсціж, Негнавічы (Неганові́чы), Нежыцы (Нежыч), Ніўкі (Ніўкі - сённяшняга Мсціжскага сельсавета), Паляны, Сяменькавічы, Студзёнка, Упірэвічы (Упіровічы), Чарневічы і асобныя іншыя населеныя пункты. Акрамя таго, у дакументах першай паловы XVII стагоддзя ўзгадваюцца Жынькава, Крушына (існавала да сярэдзіны XX стагоддзя і знаходзілася на поўдзень ад Шабынькаў) і Старое Сяло. Апошняе, хутчэй за ўсё, знаходзілася на месцы старога парка і рэштках бровара былога маёнтка Крычын.

Сярод пералічаных насяленняў Зембін (у 1598 годзе) узгадваецца як мястэчка. Лошніца таксама мела статус мястэчка ці, нават, горада. Ва ўсякім разе ў грамаце, якая надана Жыгімонтам Вазой 22 лютага 1627 года жыхарам Лошніцы, яна называецца як мястэчкам, так і горадам. У самой грамаце даецца дазвол на правядзенне ў ёй па суботах штотыднёвых гандляў. Нельга выключаць магчымасці таго, што ў гэты час у Лошніцы быў замак. Ва ўсякім разе яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя старажылы ўказвалі ў ёй Займішча (Замчышча?) і нейкае каменішча, дзе, верагодна, быў астрог старога мястэчка ці горада.

Старыя дакументы данеслі да нас, што ў той час у нашым краі было шмат млыноў, меліся карчмы, было багата садоў ды шмат чаго яшчэ. Нездарма менавіта ў гэты час - час росквіту нашай дзяржавы - узнікла ідэя злучэння праз вярхоўі Бярэзіны і Віллі басейны Чорнага і Балтыйскага мораў. Гэты праект быў разгледжаны і ўхвалены на сейме ў Варшаве ў 1631 годзе. Аднак ідэя ўтварэння канала, які б злучаў паміж сабою два моры ў XVII стагоддзі так і не была рэалізавана. Відавочна, што вайна, якая мела месца ў хуткім часе, і заняпад дзяржавы пасля яе пасунулі рэалізацыю гэтай ідэі больш чым на 180 год.

*(Працяг будзе)*

**М.Мацельскі**

# Знаходзіць той, хто шукае...



***Сяргей Лагачоў*** - адзін з тых мастакоў, кожная сустрэча з якім не падобна на папярэднюю. Не, знешне гэта той самы Сяргей, эрудзіраваны, энергічны, поўны творчых планаў, вольны барысаўскі мастак. А непадабенства ў тым, што ён увесь час знаходзіцца ў творчым пошуку, не спыняецца на дасягнутым. Паглядзіш на яго папярэднія работы і бачыш, як яны прафесійна выкананы (дарэчы, гэта адзначалі на яго персанальных выставах масцітыя беларускія мастакі), буйная палітра фарбаў,неардынарнасць тэхнікі. Здаецца, можна было б спыніцца і працаваць у гэтым накірунку бясконца, тым больш, што некаторыя мастакі так і робяць. Сяргею такі падыход не ўласцівы. Месца работы яго падобна на лабараторыю старажытнага алхіміка. Яму мала традыцыйных фарбаў, ён спалучае здавалася б несумяшчальныя кампаненты лакаў, пастаў, грунтовак, але наносіцца гэта ўсё толькі пасля шматлікіх выпрабаванняў і ўпэўненасці, што якасць будзе на вышыні. А якія цікавыя ў яго тэхнічныя прыёмы: гэта і водціск, і ўжыванне іншых матэрыялаў, пастозныя мазкі чаргуюцца з лесіроўкай. Усё гэта надае яго творам непаўторнасць.

Сур'ёзна займацца жывапісам Сяргей пачаў тады, калі яму было ўжо далёка за трыццаць, а да гэтага ён працаваў музыкантам, мастаком-афарміцелем, займаўся бізнесам... У гэтым узросце чалавек ужо многае спасціг, сфармаваўся як асоба. Тым больш, што Сяргей увесь час займаецца самаасветніцтвам. Шматлікія кнігі на яго паліцах стаяць не для прыгажосці. Можна не сумнявацца, што ўсё гэта прачытана, прааналізавана, адкладзена ў глыбінях свядомасці і падсвядомасці. Апошнім часам яго асабліва цікавіць усё, што звязана з гісторыяй славянаў і другіх старажытных народаў, матэрыялы пра паганства, узнікненне пісьмовасці, культаў і абрадаў. Чаму ў пачатку XXI стагоддзя ён звяртаецца да гэтай невычэрпанай крыніцы гісторыі чалавецтва? Таму што, як лічыць С.Лагачоў, сучасны мастак з'яўляецца выразнікам усяго таго, што напрацавана папярэднімі пакаленнямі. Гэтыя ўплывы не маглі не адбіцца і на яго работах, у якіх стала больш праяўляцца імкненне да адзінага графічнага вобраза, жывапісная гама стала набліжацца больш да манахромных колераў. На жаль, мы не можам надрукаваць яго апошнія работы з-за таго, што яны ўжо набыты прыватнымі калекцыянерамі і ўстановамі, але будзем спадзявацца, што гэта не апошняя наша сустрэча на старонках «Гомана Барысаўшчыны». Тут трэба дадаць, што яго работы набыты прыватнымі калекцыянерамі і галерэямі не толькі Беларусі, СНД, але і многіх замежных краін свету.

За плячыма ў мастака не адна персанальная і калектыўная выстава. Але сваім галоўным дасягненнем і творчай удачай Сяргей лічыць удзел у пленэры, які праходзіў у расійскім г.Малаяраславец і быў прысвечаны 200-годдзю А.С.Пушкіна і 200-годдзю Калужскай Епархіі. На ім С.Лагачоў з барысаўскім мастаком В.Бяловым (дарэчы, аб яго творчасці мы расказвалі ў адным з папярэдніх нумароў «ГБ») прадстаўлялі Беларусь і атрымалі высокую адзнаку сваёй творчасці. Спадзяемся, што наперадзе ў Сяргея новыя творчыя поспехі і знаходкі, бо, як гаворыць народная мудрасць, знаходзіць той, хто шукае.

**Л.Гадун**

***P.S.** Зараз у памяшканні цэнтральнай гарадской бібліятэкі праходзіць выстава, на якой сярод іншых прадстаўлены творы С.Лагачова і В.Бялова.*



Экспанат, 1996г.



Хісткая раўнавага, 1996 г.



Правінцыйны матыў, 1994



Стары горад, 1995г.




**Т**ак ласкава завуць дзеці свой садок, які працуе ад завода «Агрэгатаў» у старой частцы горада. І сапраўды тут створаны ўсе ўмовы для іх.

А пачынаўся сад у 1973 годзе і быў разлічаны на 12 груп. Але і сёння тут працуе 10 дзіцячых груп, ёсць пакой псіхолага і дэфектолага. Акрамя таго, школа №1 і школа №17 размясцілі ў садку тры свае падрыхтоўчыя класы.

На маю думку, самае важнае ў гэтай установе - гэта сяброўства з прыродай. І самым шчырым прыхільнікам гэтага сяброўства з'яўляецца сама загадчыца сада Камадзей Святлана Іванаўна, якая кіруе тут ужо 12 гадоў.

Уся тэрыторыя ўстановы летам у зелені і кветках. Ёсць кусочак лесу, дзе растуць розныя дрэвы, побач - поле і сад, агарод, экалагічная сцяжына. Дарэчы, усю восень выхаванцы ласаваліся кампотам са сваіх яблык.

Ды самае дзіўнае можна ўбачыць у самім памяшканні, бо тут абсталяваны «зімовы сад». У ім растуць трапічныя расліны, кветкі.

Добраму вашаму ўражанню паспрыяе створаны «жывы куток». Два буслы, як гаспадары, гуляюць тут разам з дзецьмі, у іх зламаныя крыллі, і яны не могуць паляцець. Тут жа поўзаюць чарапахі, жывуць вожыкі, дзікія качкі, скачуць трусы, можна пачуць песню папугая і ўбачыць заморскіх рыбак.

Любяць дзеткі свой сад, з радасцю ідуць сюды. І гэта зразумела, бо шчырыя і нераўнадушныя людзі працуюць тут.

**М.Пучыла**





# Спелеолагі з Барысава

Від турызму, які прадугледжвае вандроўкі па пячорах, вядомы даўно. Аднак у Барысаве ён ніколі не быў развіты. Абумоўлена гэта, відаць, тым, што на Беларусі практычна адсутнічаюць аб'екты для такіх паходаў. Таму дзіўна было даведацца, што напярэдадні калядаў групаю турыстаў з нашага горада была здзейснена спелеалагічная вандроўка. Яшчэ больш незвычайным было тое, што аб'ектам паходу былі не натуральныя, прыродныя, а рукатворныя пячоры. За інфармацыяй аб ім мы звярнуліся да кіраўніка групы, настаўніка СШ № 24 Дзмітрыя Царова.

Пячоры, па якіх пралягаў маршрут, знаходзяцца ў паўднёва - ўсходнім накірунку ад Масквы. Гэта мноства падземных хадоў, якія былі ўтвораны з XIV па XVI стагоддзі ў выніку здабычы белага каменю (вапняку) дзеля будовы Масквы, Звенігарада, Серпухава, Падольска і іншых гарадоў. Найбольш значныя з пячорных сістэм - Сяноўская, Кісялёўская і Селікатная. Агульная працягласць падземных лабірынтаў( найбольшых з іх) дасягае 20 - 25 кіламетраў.

Пячоры актыўна сталі асвойвацца турыстамі з 1965 года. Але ў 1978 годзе іх для наведвання закрываюць. Гэта было выклікана тым, што туды трапляла шмат выпадковых людзей, якія без неабходнай пашаны ставіліся да іх. З 1984 года пячоры зноў адкрытыя для наведвання.

У студзені 1998 года абваліўся ўваход у адну з пячор. У гэты час у ёй знаходзілася каля шасцідзесяці чалавек. Былі арганізаваны выратавальныя работы, якія дазволі выратаваць усіх «палонных» падзямелля.



Паход па рукатворных пячорах уяўляе сабою вандроўку па праходах, якія высечаны пад зямлёю і перасякаюцца паміж сабою. Кіравацца прыходзіцца не сонцам, а гадзіннікам ці стомленасцю. Напрыканцы праходаў маюцца пашырэнні, як невялікія пакойчыкі. У такіх месцах, як звычай, спыняюцца нанач. Дрэнная вентыляцыя робіць амаль немагчымым распальванне вогнішча. Для гатавання ежы прыходзіцца карыстацца газавымі балонамі або прымусамі. Ёсць у пячорах і пастаянныя жыхары. Гэта кажаны, пацукі і іншыя больш дробныя істоты.

Дык што ж такое паход у пячорах? Уявіце сабе некалькі дзён у вузкіх каменных тунелях, дзе гукі знікаюць у цемры, дзе над табою сотні тон зямлі і камянёў, дзе ўвесь час зімой і летам пастаянная тэмпература + 7 - 10°С, дзе ніякага ветру і дажджу, дзе спакой і цішыня...

*В.Пчолка*

Кіраўнік групы Дзмітрый Цароў

# «Баі» без правілаў

Як змагацца з масавым дзіцячым і падлеткавым курэннем - адзінага дзейснага рэцэпту, бадай, не існуе. Адно відавочна, што змагацца патрэбна. Школьныя адміністрацыі, наколькі ў каго хапае сіл і знаходлівасці, імкнуцца забараніць курэнне на тэрыторыі школ. Калі ж уласныя меры не супыняюць злосных юных курыльшчыкаў, дырэктары, як правіла, звяртаюцца ў камісію па справах непаўналетніх пры гарвыканкоме з просьбай пакараць парушальнікаў школьных парадкаў.

Але камісіі толькі і застаецца, што фіксаваць падобныя заявы. Ніякіх мер для пакарання юных курыльшчыкаў ці іх бацькоў практычна не прадугледжана. Заканадаўства прапануе змагацца з гэтым злом іншым шляхам. Строгія меры пакарання прадугледжаны гандлёвымі правіламі продажу тытунёвых вырабаў непаўналетнім. Штраф на прадаўца ў выпадку выяўлення накладваецца ў памеры трох мінімальных зарабатных плат.

Аднак мы, падобна, жывём ва ўмовах ігнаравання ўсялякіх правілаў. Па меншай меры, бабулькі, якія марозным ранкам ужо стаяць з цыгарэтамі каля гастранома, міма якога праходзіць ледзь не ўсё амаль трохтысячнае «насельніцтва» школы №20, ніякімі правіламі сябе не абцяжарваюць.

Свае правілы тут усталявалі і аматары курэння. Па дарозе ў школу пад павеццю недабудаванага басейна вялікімі літарамі выведзена: «КУРЫЛКА». І курацца тут вучні не хаваючыся і не спяшаючыся на школьныя званкі.

*А.Турко*

# Вечар турыстаў



У адзін з апошніх дзён студзеня ў памяшканні гарадскога турклуба адбыўся сход тутэйшых прыхільнікаў актыўнага адпачынку. На ім падведзены вынікі мінулага года, узнагароджаны найбольш актыўныя турысты.

# Клуб ветэранаў турызму

Днём заснавання новай суполкі ў горадзе можна лічыць 27 студзеня 2000 года. Адбыўся сход, на якім былі вырашаны арганізацыйныя пытанні і акрэслены накірункі дзейнасці клуба.

Старшыня новага аб'яднання Караленка Уладзімір гаворыць:

- Тыя людзі, якія стаялі ля вытокаў турызму, вырашылі адысці ад будняў, успомніць маладосць, сабрацца разам. Не тыя гады, каб спаборнічаць з маладымі. Паша Быкаў, Сяргей Тарабанаў, Віктар Казінін і іншыя ўнеслі значны ўклад у развіццё турызму. Мы хацелі б быць нечым падобным на «савет старэйшых». Асноўнае наша жаданне: застацца ў турызме, заняць сваё месца сярод людзей, блізкіх нам па духу. Вось на такіх прынцыпах створаны клуб, дзверы якога адкрыты для кожнага жадаючага.

Адказваючы на пытанне па плануемаму выданню кнігі да 25 - годдзя гарадскога турыстычнага клуба, старшыня сказаў:

- Зразумела, мы дапаможам у зборы матэрыялу і падрыхтоўцы гэтага выдання, але галоўнае для нас не гэта. Мы ўносім прапанову: пры арганізацыі спаборніцтваў па турызму рознага ўзроўню прадугледжваць і нашу, ветэранскую групу. Спадзяемся, што наша прапанова знойдзе падтрымку.



Старшыня клуба У.Кірыленка

*В.Пчолка*

# Тутэйшы кнігазбор

*Шахавец Уладзімір Міхайлавіч больш вядомы як празаік (у сваіх творах уздымаў у асноўным маральна-этычныя праблемы, шмат пісаў для дзяцей). Многа перакладаў. І ўсё жыццё пісаў вершы.*

1. **«Землякі»**. Аповесць. Мінск, 1949г.
2. **«Насустрач»**. Аповесць. Мінск, 1951г.
3. **«Землякі»**. Насустрач. Аповесці. Мінск, 1952г.
4. **«Будзьце здаровы»**. Аповесць. Мінск, 1955г.
5. **«Пасля вяселля»**. Аповесць. Мінск, 1958г.
6. **«Месца ў жыцці»**. Аповесць. Мінск, 1960г.
7. **«Крылаты дзень»**. Аповесць. Мінск, 1961г.
8. **«Чорны снег»**. Аповесць. Мінск, 1962г.
9. **«Пісьмо да сябра»**. Аповесць і апавяданні. Мінск, 1966г.
10. **«На зімнім возеры»**. Апавяданні. Мінск, 1970г.
11. «Блакітная мара». Аповесць. Мінск, 1985г.
12. «Вяртанне». Вершы. Мінск, 1986г.
13. **«Светлая раніца»**. Аповесці і апавяданні. Мінск, 1988г.
14. **«Дарога пачыналася ў Бярозаўцы»**. Аповесці. Мінск, 1990г.

# Прыродная лякарня

У народнай медыцыне грыбы з даўніх часоў вядомы як крыніца біялагічна-актыўных і лекавых рэчываў.

На тэрыторыі Барысаўшчыны сустракаецца рэдкі від - грыб чага. Ён селіцца на ствалах бяроз, альхі, рабіны на месцах пашкоджання кары, мае від нарастаў рознай формы да 0,5 метра ў дыяметры і вагой да 2 кг. Паверхня гэтых нарастаў няроўная, трэшчынаватая, чорнага колеру, вельмі цвёрдая.Чага выкарыстоўваецца ў медыцыне, асабліва народнай, для лячэння страўніка, печані, селязёнкі, злаякасных пухлін, выкарыстоўваюць пры лячэнні дзёснаў. Чагу збіраюць на працягу ўсяго года толькі з жывых бяроз і выкарыстоўваюць у выглядзе адвару, для прыгатавання якога грыб, высушаны на паветры, змяльчаюць, заліваюць вадой і ставяць у добра прапаленую печку ў «лёгкі дух».

Усім вядомы баравік,які добра захоўвае свае ўласцівасці ў высушаным выглядзе, таксама з'яўляецца высакаякасным лекавым сродкам. У ім знойдзены рэчы з танізіруючымі, проціпапухлiнымі ўласцівасцямі. Даўней экстрактам баравіка лячылі абмаражэнні.

Жоўцевы грыб - неядомы двайнік баравіка - можа выкарыстоўвацца як жаўцягонны сродак.

Мухамор чырвоны шырока прымяняецца ў гамеапатыі пры спазмах сасудаў, эпілепсіі, склерозе, ангіне, функцыянальных парушэннях дзейнасці спіннога мозга і цяжка працякаючым клімаксе. У народнай медыцыне настойкай мухамора чырвонага націраюцца пры рэўматызме.

Сраматнік, земляное яйка, вясёлка - сустракаецца на Барысаўшчыне вельмі рэдка. Гэтыя грыбы з вельмі непрыемным пахам праяўляюць вялікую проціпапухлінную актыўнасць.

Заўважу, што ўжываць грыбы, як лекавыя сродкі, трэба вельмі асцярожна і лепш за ўсё параіцца з урачом-гамеапатам.

*І.Магуш*



Малюнак Л.Гадуна

### Конкурс

Газета **«Гоман Барысаўшчыны»** працягвае конкурс сярод школьнікаў Барысава і Барысаўскага раёна на лепшы фотаздымак ці артыкул. Нагадваем, што Іх тэматыка можа быць самая разнастайная - любы цікавы момант ці гісторыя, сведкамі ці ўдзельнікам якой вы былі. Максімальны размер артыкула - не болей за палову машынапіснай старонкі.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя падарункі. Лісты на конкурс з фотаздымкамі і артыкуламі дасылайце да 25 траўня 2000 года на адрас: **222120, Барысаў-1, а/с 43.**

# Школа

Мяне завуць Алеся, я вучуся ў 5 «В» класе. Аднойчы наша група рыхтавалася да дыктоўкі па англійскай мове. На дошцы настаўніца напісала **WEAK** (слабы). Падышла чарга майго суседа па парце, а ён перакладу не ведаў. Вераніка (яна сядзела за ім) прашаптала:

- Слабы...пераводзішца!

Ён і паўтарыў слова ў слова.

Тады настаўніца папрасіла:

- Прачытай слова па літарах.

Ён так і зрабіў:

- С-л-а-б-ы.

Настаўніца папрасіла зрабіць гэта па-англійску.

Тады ён сказаў:

- М (перакуленае) -е - а - к.



### Конкурс



Фота Сяргея Новікава (17 год)

## Наша гасцёўня

*У гэтым нумары мы друкуем верш Уладзіміра Гадуна, вучня 11 класа 17СШ г.Барысава*

### Вечаровы вецер

Сціхае дзень, губляе гукі.
Згасае сонца ў рацэ.
На небасхіле, у аблоках,
У нізкай і густой траве,

Між кропляў лісця сумных дрэваў,
Здымаючы клапоты дня,
Уздыхае і гуляе вецер.
І некуды знікае цішыня.

Спяшаецца павесяліцца,
Наведаць поўны думак бор,
І змыць парэшткі ўсе блакіту
Для прыгажосці дзіўных зор.

## НЕСТАНДАРТНЫ ВАРЫЯНТ

На першы погляд, гаворка аб тутэйшай РЭП музыцы здаецца несур'ёзнай. Але што мы ведаем аб лепшых сынах духу New Jork'a (сталіцы Хіп -Хоп руху ўсяго свету)? Так што чытайце і не гаварыце, што вы не ведаеце, хто такія Міх, Базыль, Кузен Djшлаг.

Усе гэтыя вельмі прыветлівыя і добрыя хлопцы ўваходзяць у склад барысаўскага РЭП гурта «Нестандартны варыянт», які, дарэчы, ужо вядомы на Беларусі. РЭП адрозніваецца ад усіх астатніх напрамкаў тым, што тэксты песень не спяваюць, а чытаюць пад даволі меладычную музыку.

Гурт «Нестандартны варыянт» быў створаны восенню 1998 года. За час свайго існавання хлопцы акрамя Барысава выступалі ў розных гарадах Беларусі: Мінску, Маладзечна, Асіповічах і ў іншых месцах. Першае выступленне гурта адбылося 8 красавіка 1998 года ў клубе «Cosmopolitan». Слухачы іх прынялі вельмі добра. Пасля гэтага гурт «Нестандартны варыянт» запрашалі ў клубы «Альтэрнатыва», «Акварыум» (зараз «Магна»). Дарэчы, нядаўна тэлегледачы 8-га канала мелі магчымасць глядзець і слухаць «Нестандартны варыянт», які прадстаўляў нашу Беларусь. Ён іграў разам з самым лепшым Break Dance гуртом пад назвай «Jam Style end Da Boogie Grew». На фестывалі «Хіп - Хоп нацыя «99» «Нестандартнаму варыянту» было прысуджана званне «лепшы РЭП гурт Беларусі». У лістападзе 1999 года выйшаў запіс гурта пад назвай «Не па ГОСТу». У яго ўвайшлі найбольш прыкметныя кампазіцыі: «Завтрашний день», «Не последнее слово», «Легче станет» і г.д. Гэтыя кампазіцыі з'яўляюцца патэнцыяльнымі хітамі.Зараз хлопцы з «Нестандартнага варыянта» рыхтуюцца да выступлення з расійскім гуртом «Кирпичи». Гэты канцэрт адбудзецца ў клубе «Альтэрнатыва» ў бліжэйшы час. Так што тыя, хто слухае і каму падабаецца творчасць «Нестандартнага варыянта», сачыце за афішамі.

*С.Жук*



# Парады ад Наталлі

*Сённяшняя тэма поўнасцю прысвечана другім блюдам.*

### Тушаныя свіныя ножкі

4 ножкі, 4 шклянкі квашанай капусты, 1 яблык, 100 г. тлушчу, лаўровы ліст, перац, соль.

Памытыя і ачышчаныя ножкі зварыць да паўгатоўнасці. Дастаць, разрэзаць уздоўж. Капусту добра памыць у халоднай вадзе. У гаршку ці эмаліраваным посудзе растапіць тлушч, пакласці ножкі, на іх пласт капусты. Заліць 2-3 шклянкамі гатаванай вады і тушыць. Калі мяса крыху памякчэе, пасаліць, дабавіць змолаты перац, лаўровы ліст, нацёрты на тарцы яблык. Яшчэ крыху патушыць. Падаваць са зваранай бульбай.

### Бульба фаршыраваная

200 г. тварагу пратрыце праз сіта. Змяшайце з 2 яйкамі і 1 сталовай лыжкай мукі. Пасаліце па смаку і добра перамяшайце. Потым ачысціце 6 буйных бульбін, разрэжце іх папалам. У кожнай палавінцы зрабіце паглыбленне, каб таўшчыня сценак была каля сантыметра. Запоўніце падрыхтаваную бульбу тварожным фаршам і абсмажце на масле. Затым дабаўце крышку вады або булёну і тушыце пад крышкай да гатоўнасці.

### Аладкі з кабачкоў

Свежыя кабачкі ачысціць, дастаць насенне, нацерці на тарцы, праз сіта адцадзіць вадкасць. Нацёртую масу змяшаць з мукою, жаўткам, пасаліць па смаку. Дабавіць узбіты бялок, усё перамяшаць. Падрыхтаваную масу смажыць у кіпячым масле. Пры падачы на стол рэкамендуецца паліць смятанай.

Прадукты: 500 г. кабачкоў - 1 яйка, 40 г. мукі, 30 г. масла.

### Кілбаскі магілёўскія

Ялавічыну і сала прапусціць двойчы праз мясарубку, дабавіць у фарш мелка пакрышаны часнок, перац, соль і добра перамяшаць. Раздзяліць на невялікія кілбаскі, запаніраваць іх у муцэ. Укласці на змазаную тлушчам патэльню, зверху змазаць яйкам і паставіць у моцна нагрэтую духоўку. Гатовыя кілбаскі падаць з адваранай ці смажанай бульбай.

Прадукты: 300 г. мяса (мякаць), 160 г. сала, 2 зубкі часнаку, 1 яйка, 1 сталовая лыжка мукі, 1 сталовая лыжка масла, 6 бульбін, перац, соль па смаку.

# Ці ведаеце вы, што...

**Па стану на 1997 год у Барысаўскім раёне самымі старэйшымі парадзіхамі** былі - Шыла Уладзіслава, в.Мсціж, нарадзіла ў 51 год; Шчэрба Ванда, в.Забашавічы, нарадзіла ў 50 год; Лыскавец Праскоўя, в.Леванова, нарадзіла ў 50 год; Карачун Ніна, в.Карсакавічы, нарадзіла ў 49 год.

**Самай мнагадзетнай маці** была - Шатэрка Марыя, в.Іканы, 12 дзяцей; Касцюковіч Ганна, в.Мётча, 12 дзяцей; Белая Марыя, в.Зорычы, 11 дзяцей; Хорава Зінаіда, в.В.Негнавічы, 10 дзяцей; Маўчанская Сафія, в.Рагатка, 10 дзяцей; Жуковіч Таццяна, в.Дроздзіна, 10 дзяцей.

**Самымі старымі жаніхамі і нявестамі** былі - Трасько Віктар ажаніўся ў 69 год на Пацеевай Еве,72 гады, в. Шыліна; Стамбулевічы Фёдар і Зінаіда,в.Чэрнеўка, ажаніліся ў 70 гадоў; Ферко Уладзімір і Дзямідчык Кацярына, в.Зембін, ажаніліся ў 66 гадоў.

**Самымі маладымі жаніхом і нявестай** былі - Цїка Сяргей (16 год) і Забелла Алеся (15год), в.Лошніца.

**Самай радавітай сям'ёй** была сям'я - Лучыных, в.Зорычы, 46 чалавек; Цітавец, в.Аздзяцічы, 35 чалавек; Клімковіч, в.Жыцькава, 25 чалавек.

*(Па матэрыялах метадычнага цэнтра Цэнтральнай раённай бібліятэкі)*

# Крыжаванка

Крыжаванка складзена па матэрыялах гэтага нумара.

**Па гарызанталі:** 1 - тутэйшы паэт, празаік; 2 - праваслаўны манастыр у Барысаве, які існаваў да сярэдзіны XVIII стагоддзя; 3 - вуліца ў Барысаве; 4 - тутэйшы мастак; 5 - населены пункт у прадмесці Барысава; 6 -мястэчка ў XVI стагоддзі на Барысаўшчыне; 7 - вёска; 8 - вуліца ў Барысаве; 9 - вёска; 10 - вёска; 11 - мястэчка ў XVI стагоддзі на Барысаўшчыне; 12 - вёска; 13 - вёска; 14 - кінатэатр у Барысаве на пачатку XX стагоддзя.




**Адказы на крыжаванку,** што змешчана ў «ГБ» № 1(10): 1 - Бобр; 2 - Сапега; 3 - Радзівілы; 4 - Негатыў; 5 - Гальшанскія; 6 - Весялова; 7 - Аршанская; 8 - Зембін; 9 -Хаўхоліцкі; 10 - Мётча; 11 - Замошша; 12 - Адраджэнне; 13 - Чарневічы; 14 - Крушына; 15 - Ганцавічы; 16 - Грошы.

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 19.30 26.02.2000 г.
Замова № 1291

Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*